Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

10 кастрычніка 1927 г.

№ 15 (40)

3-ці год выданьня

Выданьне СНК БССР
Менск—1927 г.

# ЗЬМЕСТ

## Частка афіцыйная.

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

АБ УДЗЕЛЕ РАЁННЫХ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЭТАЎ У ЗБОРЫ СТРАХАВЫХ ПЛАЦЯЖОЎ ПА СЕЛЬСКІМ АКЛАДНЫМ СТРАХАВАНЬНІ БССР.

### Органы спагнаньня.

1. Збор акладу і спагнаньне нядоімкі страхавых плацяжоў па абавязковым-сельскім акладным страхаваньні ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты, якія адказваюць за сваячасны і поўны збор плацяжоў, а таксама за цэласьць і захавальнасьць сабраных страхавых сум.

### Парадак прыманьня плацяжоў і выдачы квітоў.

2. Страхавыя плацяжы ад страхавальнікаў прымаюцца і касамі раённых выканаўчых камітэтаў, і, па даручэньні апошніх, сельскімі саветамі, на падставе складзеных страхавымі агэнцтвамі паведамленьняў і іменных сьпісаў плацельшчыкаў страхавых плацяжоў, у парадку інструкцыі, якая выдаецца аб гэтым.

*Увага.* Агэнцтвы Дзяржаўнага Страхаваньня прымаюць страхавыя плацяжы пры выплаце заплаты за страты і пры заключэньні дабравольных страхаваньняў або калі страхавальнікі жадаюць выплачваць плацяжы беспасрэдна агэнцтву.

3. Пры кожным атрыманьні акладных страхавых плацяжоў плацельшчыку выдаецца на рукі страхавы квіт, з подпісам і пячаткаю раённага выканаўчага камітэту або сельскага савету.

Атрыманьне грошай бяз квітоў, выдача іншых (не страхавых) квітоў або выдача прыватных расьпісак забараняецца.

4. Калі за страхавальнікам, разам з акладам, лічыцца страхавая нядоімка, то з атрыманых грошай перш за ўсё папаўняецца нядоімка з пеняю.

### Забесьпячэньне блянкамі квітоў і іх падлік.

5. Да збору страхавых плацяжоў раённыя выканаўчыя камітэты забесьпячаюцца адпаведнымі агэнцтвамі патрэбнаю колькасьцю квітовых кніжак, якія раённыя выканаўчыя камітэты павінны падлічаць.

Карэнчыкі скарыстаных квітовых кніжак раённыя выканаўчыя камітэты зварочваюць агэнцтвам адзін раз у канцы кожнага месяца.

## Падлік страхавых плацяжоў.

6. Сельскія саветы сабраныя імі сумы страхавых пляцяжоў здаюць раённым выканаўчым камітэтам ня менш аднаго разу на тыдзень, пад асобныя зборныя квіты, вызначанай Дзяржаўным Страхаваньнем формы, якія выдаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі.

Па гэтых-жа квітох у канцы кожнага дня праводзяцца і сумы, якія паступілі беспасрэдна ў касы раённых выканаўчых камітэтаў.

7. Страхавыя плацяжы павінны праводзіцца па агульнай касавай кнізе раённых выканаўчых камітэтаў.

8. У зборных квітох адзначаецца па якіх плацежных квітох прыняты плацяжы, з разьмеркаваньнем іх на нядоімку, аклад, пеню і на паступіўшыя сумы за прымусовае спагнаньне.

9. Раённым выканаўчым камітэтам вядзецца штодзённая ведамасьць па сельскіх саветах аб сумах страхавых плацяжоў, якія паступілі ў касы раённага выканаўчага камітэту.

Агульны падлік налічаных, дапрылічаных, выключаных і выплачаных плацяжоў вядзецца штомесячна на кожны сельскі савет па ведамасьці, зьмешчанай на вокладцы іменных сьпісаў.

## Парадак здачы сабраных сум.

10. Сабраныя страхавыя плацяжы раённыя выканаўчыя камітэты здаюць адзін раз на тыдзень і незалежна ад гэтага ў апошні дзень кожнага месяца зборшчыку (упаўнаважанаму) Дзяржаўнага Банку.

*Увага.* Для забесьпячэньня сваячаснай выплаты пацярпеўшым заплаты за страхавыя страты раённым выканаўчым камітэтам даецца права выдаваць страхавым агэнцтвам патрэбныя сумы грошай з паступіўшых сум страхавых плацяжоў.

## Заплата за збор акладу.

11. На выдаткі на збор страхавых плацяжоў Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР адлічае раённым выканаўчым камітэтам 3 проц. ад фактычна паступіўшых у касы раённых выканаўчых камітэтаў сум страхавых плацяжоў. Паказаную вышэй суму заплаты раённыя выканаўчыя камітэты атрымоўваюць пэрыядычна, але не часьцей аднаго разу на месяц.

Заплата, што атрымоўваецца раённым выканаўчым камітэтам, разьмяркоўваюцца апошнімі па сельскіх саветах, якія зьбіралі страхавыя плацяжы.

## Справаздачнасьць аб сабраных плацяжох.

12. Пасьля здачы сабраных сум зборшчыку (упаўнаважанаму) Дзяржаўнага Банку раённыя выканаўчыя камітэты перадаюць страхавым агэнтам для правядзеньня па сваёй справаздачнасьці талёны зборных квітоў, па якіх прыняты касамі раённага выканаўчага камітэту страхавыя плацяжы і выдатковыя дакумэнты (копія або дублікат квіту зборшчыка Дзяржаўнага Банку і квіт раённага выканаўчага камітэту аб атрыманьні заплаты за збор акладу).

### Інфармацыя аб ходзе збору.

13. Два разы на месяц (1 і 16 кожнага месяца) раённыя выканаўчыя камітэты складаюць двухтыднёвую ведамасьць аб паступіўшых плацяжох за мінулы паўмесяц па сельскіх саветах раёну і рассылаюць іх сельскім саветам.

*Увага.* Для паўнаты падліку і ўзгадненьня рахункаў паступіўшых сум страхавых плацяжоў агэнцтвы да паказанага вышэй часу даюць раённаму выканаўчаму камітэту зьвесткі аб зьменах (дапрылічэньне, выключэньне і зьняцьце) у налічаным акладзе па сельскіх саветах і аб паступіўшых у агэнцтвы сумах акладных плацяжоў.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

За адказнага Сакратара Эканамічнай Нарады БССР **М. Арлоў.**

7-га верасьня 1927 году.

---

„Зацьвярджаю".
Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**
8 верасьня 1927 г.

## 2. Пастанова Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### АБ УЖЫВАНЬНІ МЭТРЫЧНЫХ МЕРАК У ЗАГАТОЎКАХ І ГАНДЛІ ЗБОЖЖАМ І ХЛЕБНЫМІ ТАВАРАМІ.

Замест раней выданых абавязковых пастаноў Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі №№ 9, 13, 15 і 17 аб мэтрызацыі загатовак і гандлі збожжам і хлебнымі таварамі, Міжведамственная Мэтрычная Камісія пры Эканамічнай Нарадзе БССР пастанаўляе:

1. Канчаткова забараніць з 1 кастрычніка 1927 г. карыстацца немэтрычнымі гірамі і вагамі і ўжываць раўналежныя запісы ў дакумэнтах, расцэнкі і інш. ў расійскіх мерках побач з мэтрычнымі пры загатоўцы, куплі і продажы, а таксама пры захаваньні ўсякага збожжа і насеньня, мукі, круп і іншых прадметаў пераапрацоўкі збожжа і хлебнага тавару.

2. Лічыць законным тыпам мэтрычнай пуркі — пурку з падаючым цяжарам, ёмістасьцю 1/4 літра і 1 літр, якая павінна адпавядаць тэхнічным правілам, устаноўленым загадамі ВСНГ СССР за 16/III—1925 г. № 587 і за 5/III—1926 г. № 447 і адпаведнымі дапаўненьнямі і зьменамі, якія ўстанаўляюцца ВСНГ СССР.

Адначасна лічыць законнаю пурку ёмістасьцю 20 літраў.

3. Вызначэньне натуры збожжа ва ўстановах, якія па закону маюць афіцыйнае права ўстанаўляць якасьць збожжа і выдаваць сэртыфікаты, павінна рабіцца пры дапамозе пуркі ёмістасьцю 1 літр.

Хлебазагатоўчыя і іншыя арганізацыі могуць карыстацца ў сваіх апарацыях пуркаю 1/4 літра, 1 літр і 20 літраў з тым, каб паказаньні пурак у 1/4 літра і ў 20 літраў, калі трэба параўноўваць паказаньні паміж сабой, пераводзіліся на паказаньні пуркі ў 1 літр

па адпаведных афіцыйных табліцах, зацьверджаных Цэнтральнаю Мэтрычнаю Камісіяю пры Савеце Працы і Абароны, Міжведамственнаю Мэтрычнаю Камісіяю пры Эканамічнай Нарадзе БССР або Галоўнаю Палатаю Мерак і Ваг.

4. Для вылічэньня баніфікацый і рэфакцый у якасьці мэтрычнай адзінкі ўстанавіць 5 грамаў літравай пуркі.

*Увага.* Часьць паказанай адзінкі, меншая 2,5 грамаў, пад увагу не бярэцца, а 2,5 грама і больш лічацца за поўныя 5 грамаў.

5. Натура збожжа з 1 кастрычніка 1927 г. ва ўсіх дакумэнтах павінна вызначацца толькі ў мэтрычных мерках.

Тэрмін канчатковай забароны ўжываць немэтрычныя пуркі ўстанаўляецца 1-га ліпеня 1929 году.

*Увага.* Пры карыстаньні залатніковымі пуркамі паказаньні іх пераводзяцца на паказаныя мэтрычныя пуркі па адпаведных афіцыйных пераводных табліцах.

6. Выраб у БССР і ўвоз у БССР з-за граніцы і іншых рэспублік пурак іншых сыстэм, апроч паказанай у п. 2, забараняецца.

7. Расцэначнаю разьліковаю адзінкаю для гуртовай і паўгуртовай загатоўкі і продажу ўстанавіць цэнтнер (100 кілёграм), для раздробнай—1 кілёграм.

8. Кіраваньне і нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на Народны Камісарыят Гандлю БССР і яго мясцовыя органы.

9. Для выкананьня гэтай пастановы абавязаць Народны Камісарыят Гандлю БССР разам з ВСНГ БССР арганізаваць плянавае забесьпячэньне пуркамі плянавых загатоўшчыкаў і іншых арганізацый, а таксама паасобных хлебазагатоўшчыкаў і спажыўцоў пурак.

10. З часу выданьня гэтай пастановы раней выданыя пастановы аб мэтрызацыі хлебазагатовак № 9 (З. З. БССР 1925 г., № 23, арт. 211), № 13 (З. З. БССР 1925 г., № 28, арт. 259), № 15 (З. З. БССР 1925 г., № 39, арт. 343) і № 17 (З. З. БССР 1926 г., № 7, арт. 31)—лічыць страціўшымі сілу.

Старшыня Міжведамственнай
Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай
Нарадзе БССР **А. Каплан.**

Сакратар Міжведамственнай Мэтрычнай
Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР **М. Варфман.**

8 верасьня 1927 г.
№ 23.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗАХАДАХ ДА РАСТЛУМАЧЭНЬНЯ НАСЕЛЬНІЦТВУ ІСНУЮЧЫХ ДЛЯ СЕМ'ЯЎ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ ЛЬГОТ І АБ АРГАНІЗАЦЫІ І ДАЧЫ ЮРЫДЫЧНАЙ ДАПАМОГІ ВАЙСКОЎЦАМ І ІХ СЕМ'ЯМ ДЛЯ АБАРОНЫ ІХ ПРАВОЎ НА ДАДЗЕНЫЯ ІМ ЗАКОНАМ ЛЬГОТЫ.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

Для выстарчальнага ажыцьцяўленьня законаў аб льготах вайскоўцам і іх сем'ям і для найбольш поўнага здавальненьня іх інтарэсаў у галіне дачы ім прадугледжаных законам льгот Прэзыдыумам ЦВК БССР на пасяджэньні 21 ліпеня г. г. (прат. № 10, п. 97) вынесена пастанова аб растлумачэньні насельніцтву праз сельскія сходы і друк усіх існуючых льгот сем'ям чырвонаармейцаў і аб арганізацыі юрыдычнай дапамогі вайскоўцам і іх сем'ям.

З гэтай прычыны, а таксама бяручы пад увагу тое, што ажыцьцяўленьне паказанай пастановы ў той частцы яе, якая тычыцца растлумачэньня насельніцтву існуючых льгот вайскоўцам і іх сем'ям, у значнай меры залежыць ад больш-менш уважлівых адносін да яе працаўнікоў юстыцыі, якія па сваім становішчы бліжэй за ўсіх стаяць да працы па азнаямленьні насельніцтва з існуючым заканадаўствам, і што арганізацыя юрыдычнай дапамогі насельніцтву ляжыць беспасрэдна на акруговых калегіях абаронцаў, якія праводзяць сваю працу пад бліжэйшым кіраўніцтвам акруговых судоў, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Зрабіць захады да пастаноўкі працаўнікамі суду, сьледзтва, пракуратуры і калегіі абаронцаў на сельскіх сходах і ў вайсковых часьцях дакладаў аб існуючых льготах чырвонаармейцам і іх сем'ям і аб парадку абароны іх правоў, а таксама—да асьвятленьня гэтых тэм у мясцовым друку.

2. Арганізаваць праз акруговыя калегіі абаронцаў юрыдычныя кансультацыі пры ўсіх вайсковых часьцях, якія знаходзяцца на падпарадкаванай акруговым судом тэрыторыі, узгодніўшы гэтае пытаньне з адпаведнымі прадстаўнікамі вайсковай улады, для дачы бясплатнай юрыдычнай дапамогі вайскоўцам і іх сем'ям і рабіць такую дапамогу ва ўсіх існуючых кансультацыях і даведачных сталох.

3. Рабіць усякую дапамогу чырвонаармейцам і іх сем'ям, калі яны зварочваюцца ў органы юстыцыі, і дачаю ім адпаведных паказаньняў для абароны іх правоў на дадзеныя законам ім льготы і скарачэньнем тэрмінаў праходжаньня іх спраў праз паказаныя органы.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Час. вык. аб. Пам. Пракурора
Рэспублікі БССР **А. Кіпарысаў.**

Ст. Інспэктар НКЮ БССР **Ю. Барышаў.**

21 жніўня 1927 г.
№ 76.

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗЬМЯШЧЭНЬНІ Ў ВЕДАМАСЬЦІ № 1 АБ РУХУ КРЫМІНАЛЬНЫХ СПРАЎ У АКРУГОВЫХ І НАРОДНЫХ СУДОХ НЕКАТОРЫХ ДАДАТКОВЫХ ЗЬВЕСТАК.

*Усім акруговым і народным судом БССР.*

Для ўстанаўленьня кантролю над падачаю статыстычных лісткоў аб асуджаных прапануецца акруговым і народным судом зьмяшчаць у графе „Увага“ ведамасьці № 1 аб руху крымінальных спраў у акруговых і народных судох, якая падаецца ў Народны Камісарыят Юстыцыі па паўгодзьдзях, зьвесткі аб ліку асуджаных асоб, адносна якіх у справаздачны пэрыяд прысуды набылі законную сілу, і аб ліку адасланых у статыстычныя органы ў гэты пэрыяд статыстычных лісткоў на асуджаных.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

21 жніўня 1927 г.
№ 77.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ УРУЧЭНЬНІ ПАВЕСТАК, АБВЕСТАК І ПАВЕДАМЛЕНЬНЯЎ, ЯКІЯ ПАСЫЛАЮЦЦА Ў РСФСР ПРАЗ ПОШТУ.

*Усім органам юстыцыі.*

Цэнтральнае Адміністрацыйнае Кіраўніцтва Н. К. Ўнутранных Спраў РСФСР паведаміла Народны Камісарыят Юстыцыі, што ім, у адпаведнасьці з зьменаю арт. арт. 66-га ГПК і 130 КПК РСФСР (З. З. РСФСР, 1926 г., № 51, арт. арт. 389 390) і з пастановаю СНК РСФСР за 9 красавіка г. г., зроблены загад органам міліцыі ня прымаць да выкананьня павестак, абвестак і іншых паведамленьняў, якія пасылаюцца судова-сьледчымі органамі ў гарады і тыя сельскія мясцовасьці РСФСР, дзе ёсьць паштовая сувязь і ў тым ліку кальцовая пошта, і якія, паводле памянёных вышэй артыкулаў ГПК і КПК РСФСР, павінны ўручацца праз пошту.

Паведамляючы аб паказаным вышэй, Народны Комісарыят Юстыцыі прапануе ўсім судовым і сьледчым органам пры пасылцы імі ў РСФСР павестак, абвестак або іншых паведамленьняў не накіроўваць іх для ўручэньня органам міліцыі, а пасылаць беспасрэдна адпаведным асобам праз пошту, заказным пакетам з зваротнаю расьпіскаю, дазваляючы адступленьне ад гэтага правіла толькі ў тых выпадках, калі павесткі, абвесткі або паведамленьні накіроўваюцца ў мясцовасьці, з якімі няма паштовай сувязі.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў.**

21 жніўня 1927 г.
№ 78.

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ТЭРМІНОВЫМ РАЗГЛЯДЗЕ СПРАЎ АБ АСОБАХ, ЯКІЯ ПРЫЦЯГНУТЫ ДА КРЫМІНАЛЬНАЙ АДКАЗНАСЬЦІ ЗА НЕСВАЯЧАСНУЮ ВЫПЛАТУ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ І ПА ІСКАХ АБ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ.

*Усім акруговым і народным судом і акруговым пракурорам БССР.*

Наглядаецца, што некаторыя ўстановы і прадпрыемствы ня выплачваюць своячасна заработнай платы рабочым і служачым. З гэтай прычыны органы Народнага Камісарыяту Працы прымушаны прыцягваць асоб, вінаватых ў гэтым, да крымінальнай адказнасьці. З другога боку наглядаецца, што народнымі судамі ня выконваецца абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі № 94 за 18/XII 1925 г. аб тэрміновым разглядзе спраў паісках аб заработнай плаце.

З гэтай прычыны і бяручы пад увагу тое, што памянёныя справы маюць вельмі важнае значэньне для інтарэсаў працоўных, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Усе справы, якія накіроўваюцца ў суды органамі Народнага Камісарыяту Працы аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці за несваячасную выплату заработнай платы асоб, вінаватых ў гэтым, разглядаць у першую чаргу, у парадку літ. „а“ пункту 1-га абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі № 94 за 1925 г..
2. Асьвятляць працэсы па гэтых справах у друку.
3. Строга сачыць за выкананьнем памянёнага вышэй абежніку НКЮ № 94 за 1925 г., у паасобку, за назначэньнем спраў паісках аб заработнай плаце ў другую чаргу, ў парадку літ. „б“ пункту 1-га гэтага абежніку, і за выкананьнем пункту 3-га таго-ж абежніку аб разглядзе спраў першай і другой чаргі на працягу месяца.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Час. вык. абав. Пам. Пракурора
Рэспублікі БССР **А. Кіпарысаў.**

21 жніўня 1927 г.
№ 79.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ НЕДАПУШЧАЛЬНАСЬЦІ НАТАРЫЯЛЬНАГА ЗАСЬВЕДЧАНЬНЯ ДАКУМЭНТАЎ САКРАТАРАМІ НАРОДНЫХ СУДОЎ ЗАМЕСТ НАРОДНЫХ СУДЗЬДЗЯЎ І АБ ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ КОПІЙ ДАКУМЭНТАЎ З СУДОВЫХ СПРАЎ.

*Усім народным судом і натарыяльным канторам БССР.*

Ёсьць выпадкі, калі сакратары народных судоў выконваюць натарыяльныя дзеяньні замест народных судзьдзяў; так, напрыклад, пры пасьведчаньні даверанасьцяй замест народнага судзьдзі расьпісваецца сакратар народнага суду—„за народнага судзьдзю“.

Таксама наглядаецца, што пры выдачы з спраў народнага суду копій дакумэнтаў вернасьць гэтых копій засьвядчаецца подпісам аднаго сакратара народнага суду.

Адзначаны парадак засьведчаньня дакумэнтаў не адпавядае закону і раней дадзеным паказаньням.

Выкананьне натарыяльных дзеяньняў ускладаецца законам выключна на натарыусаў і народных судзьдзяў, а на іншых асоб выкананьне гэтых дзеяньняў можа ўскладацца толькі старшынёю акру-

говага суду, калі натарыус хварэе, знаходзіцца ў водпуску, калі пасада натарыуса вольная або яе зусім няма. З гэтай прычыны сакратары народных судоў зусім ня маюць права выконваць натарыяльных дзеяньняў, якія можа і павінен выконваць у выпадках, прадугледжаных законам, толькі народны судзьдзя.

Засьведчаньне вернасьці копій з дакумэнтаў, якія выдаюцца з судовых спраў, толькі подпісам аднаго сакратара народнага суду ня толькі не адпавядае парадку, які быў раней прапанованы народным судом абежнікам быўшага Вышэйшага Суду БССР за 25 студзеня 1925 г. № 6, але і не дае НКЮ магчымасьці візаваць гэткія копіі ў тых выпадках, калі яны выдадзены для падачы заграніцу, бо ў НКЮ захоўваюцца ўзоры подпісаў толькі тых асоб, якія маюць права выконваць натарыяльныя функцыі, а іменна: натарыусаў, народных судзьдзяў і асоб, на якіх ускладаецца часовае выкананьне натарыяльных абавязкаў.

З гэтай прычыны Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

а) ні ў якім разе не дазваляць засьведчаньня ў натарыяльным парадку дакумэнтаў і падпісваньня іх сакратарамі народных судоў замест народных судзьдзяў;

б) пры выдачы копій дакумэнтаў з судовых спраў дакладна кіравацца абежнікам быўшага Вышэйшага Суду БССР № 6—1925 г. і абежнікам НКЮ № 22—1924 году (З. З. БССР, 1924 г., № 5, арт. 68), паводле якіх усе копіі, што выдаюцца з спраў народнага суду павінны абавязкова падпісвацца народным судзьдзёю і сакратаром народнага суду і мець пячатку народнага суду, дату выдачы, № справы, з якой копія выдаецца, і паказаньне аб тым, каму яна выдана.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

21 жніўня 1927 г.
№ 80.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗЬМЕНЕ ПАРАДКУ НАКІРАВАНЬНЯ ЗБОРАЎ, ПАТРЭБНЫХ ДЛЯ ЛЕГАЛІЗАЦЫІ ДАВЕРАНАСЬЦЯЙ І ІНШЫХ ДАКУМЭНТАЎ, ЯКІЯ ПРЫЗНАЧАНЫ ДЛЯ ПАДАЧЫ ЗАГРАНІЦАЮ.

*Усім дзяржаўным натарыяльным канторам.*
*Копія—акруговым судом.*

Абежнікамі НКЮ па натарыяльным п/аддзеле за 28/XI 1924 г. № 418 на імя ўсіх дзяржаўных натарыяльных кантор і за 21/III 1927 г. № 1907 на імя Гомельскай Натарыяльнай Канторы было запрапанавана даверанасьці і іншыя дакумэнты, якія прызначаны для дзеяньня заграніцаю, падаваць, з згоды зацікаўленых асоб, у НКЮ для засьведчаньня подпісаў натарыусаў і для легалізацыі іх у Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежных Спраў з адначасовым уносам адпаведных сум збораў.

Бяручы пад увагу, што засьведчаньне подпісаў натарыусаў на паказаных дакумэнтах робіцца НКЮ бясплатна і што атрыманьне НКЮ з пошты, а потым перадача ім па належнасьці збораў, якія прызначаюцца для Ўпаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежных Спраў і для Польскага Консульства, зьяўляецца для НКЮ ня зручным і выклікае лішнюю, непатрэбную інстанцыю для падліку гэтых збораў, Народны Камісарыят Юстыцыі пасьля ўзгадненьня

гэтага пытаньня з Упаўнаважаным Н. К. Замежных Спраў і замест адпаведных частак паказаных вышэй сваіх абежнікаў прапануе наступнае:

1. Усе зборы, якія павінны ўносіцца паводле паказаных вышэй абежнікаў НКЮ, накіроўваць не ў НКЮ, а беспасрэдна Упаўнаважанаму Народнага Камісарыяту Замежных Спраў, паказваючы на адрэзным купоне паштовага пераводу дакладныя зьвесткі аб тым, ад каго (ад якога грамадзяніна або грамадзянкі) і на легалізацыю якога дакумэнту пасылаюцца грошы.

2. У адносінах да натарыусаў, ад якіх будуць накіроўвацца ў НКЮ для засьведчаньня іх подпісаў даверачасьці або іншыя дакумэнты, а таксама і ў заявах грамадзян, калі яны будуць самі беспасрэдна зварочвацца ў НКЮ з хадайніцтвам аб засьведчаньні подпісаў натарыуса, павінна быць дакладна паказана аб тым, калі, адкуль, кім, пад які паштовы квіт і на якую суму пераведзены грошы на імя Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

Калі такіх зьвестак ня будзе, то даверанасьці або іншыя дакумэнты, пасьля засьведчаньня іх у НКЮ, будуць зварочвацца па належнасьці без папярэдняй перадачы іх для легаліцыі Упаўнаважанаму Н. К. Замежных Спраў.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

1 верасьня 1927 г.
№ 82.

---

„Зацьвярджаю".
Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Я. Валодзька.**
13 верасьня 1927 г.

## 9. Інструкцыя Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці НКЗ БССР

### АБ ПАРАДКУ І ЎМОВАХ ПЕРАЛІЧЭНЬНЯ ЗЯМЕЛЬ ПРАЦОЎНАГА КАРЫСТАНЬНЯ ПАД НЯ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫЯ ПРОМЫСЛЫ І ВЫТВОРЧАСЬЦІ.

Для спрашчэньня існуючага парадку пералічэньня зямель працоўнага карыстаньня пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці Народны Камісарыят Земляробства, замест інструкцыі за 2-га студзеня 1926 году, устанаўляе наступныя правілы для такога пералічэньня:

1. Пералічэньне зямель працоўнага карыстаньня пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці можа дазваляцца толькі тады, калі раённымі зямельнымі органамі будзе ўстаноўлена, што такое пералічэньне будзе больш выгадным у гаспадарча-эканамічных адносінах, як скарыстаньне гэтай зямлі для сельска-гаспадарчых патрэб.

2. Права пералічэньня зямель працоўнага карыстаньня пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці для будаваньня млыноў і грэбляў, цагелень, вапнавых і чарапічных заводаў, распрацоўкі торпу, здачы ў кароткатэрміновую арэнду для будаваньня часовых складаў пад перавозныя матар'ялы па чыгунках і сплаўных рэках і г. д., можа давацца зямельным грамадам і паасобным грамадзянам, у карыстаньні якіх ёсьць землі сельска-гаспадарчага прызначэньня.

Жадаючыя пералічыць усё свае землякарыстаньне або толькі частку пад паказаныя промыслы або вытворчасьці павінны падаць аб гэтым хадайніцтва ў зямельны стол мясцовага раённага выканаўчага камітэту, у якім хадатайстве трэба паказаць дзе знаходзіцца гэтая зямля, яе межы, разьмер, сумежныя землякарыстаньні, для якой патрэбы мяркуецца пералічэньне, на які тэрмін і г. д., а пры здачы ў арэнду для будаваньня часовага складу трэба паказаць, каму здаецца ў арэнду зямля і на які час.

4. Зямельны стол раённага выканаўчага камітэту перадае гэтую заяву для абсьледаваньня на месцы камісіі, якая складаецца з прадстаўніка раённага выканаўчага камітэту, сельскага савету і патрэбных спэцыялістаў.

5. Абсьледаваньне на месцы высьвятляе разьмер зямлі, якую мяркуецца пералічыць пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці, ураджайнасьць яе, характар глебы, рэльеф мясцовасьці, сумежныя землякарыстаньні, мэтазгоднасьць такога пералічэньня з гаспадарча-эканамічнага боку, як гэта пералічэньне адбіваецца на скарыстаньні рэшты зямель гаспадаркі, сутнасьць заяўленых супроць гэтага пералічэньня супярэчаньняў сумежных землякарыстальнікаў, ці ня будуць парушаны інтарэсы апошніх, а таксама і ўсе іншыя акалічнасьці, якія могуць мець значэньне для справы.

6. Матар'ялы абсьледаваньня падаюцца камісіяю ў зямельны стол раённага выканаўчага камітэту, які разглядае іх і выносіць пастанову аб дазволе пералічэньня або аб адмаўленьні ў ім. У пастанове аб дазволе павінна быць паказана на што дазваляецца пералічэньне зямлі, плошча і межы яе, а таксама на колькі даны дазвол.

7. Калі аб пералічэньні зямлі ўзьнікаюць спрэчкі, то яны павінны вырашацца ў судовым парадку ў зямельных камісіях да разгляду гэтага пытаньня ў раённых зямельных органах.

*Увага.* Тэрмін здачы зямлі ў арэнду павінен адпавядаць дзеючаму заканадаўству (арт. арт. 27—37 Зям. Код.).

8. Дазвол зямельных органаў на пералічэньне зямлі пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці не забараняе іншым органам улады даставаць дазволы на права займацца промыслам або вытворчасьцю, калі гэта патрабуецца дзеючымі заканапалажэньнямі.

9. За пералічэньне зямель працоўнага карыстаньня пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці без дазволу зямельных органаў землякарыстальнікі могуць быць часова або зусім пазбаўлены права карыстацца зямлёю ў парадку артыкулу 58 Зямельнага Кодэксу.

Начальнік Кіраўніцтва Землеўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай
Маемасьці НКЗ БССР **А. Шычко.**

Нам. Старшыні Асобай Калегіі
Вышэйшага Кантролю НКЗ БССР **М. Вашчыла-Вірын.**

10 верасьня 1927 году.

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ ЗЬМЕНЫ ПРОЗЬВІШЧ І ІМЁН.

На падставе § 7 пастановы ЦВК і СНК БССР за 21/II—1925 г. (З. З. БССР 1925 г., № 9, арт. 81) Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе ў справах аб парадку зьмены прозьвішч выконваць наступныя правілы:

I.

1. Рэгістрацыя актаў зьмен прозьвішч і імён робіцца толькі акруговымі органамі ЗАГС.

2. Кожнаму грамадзяніну БССР пасьля 18 гадоў даецца права зьмяняць свае прозьвішча або імя, калі гэтым не парушаюцца інтарэсы іншых (трэціх) асоб.

3. Заявы аб зьмене прозьвішч і імён могуць падавацца ў раённыя і акруговыя органы ЗАГС ў пісьмовым відзе па месцы жыцьця асоб, якія жадаюць зьмяніць прозьвішча або імя.

4. У заяве павінны быць паказаны наступныя зьвесткі:

а) прозьвішча, імя і імя па бацьку;

б) сацыяльнае становішча;

в) сямейнае становішча;

г) месца і час нараджэньня;

д) адносіны да абавязковай вайсковай службы;

е) зьвесткі аб непаўналетніх дзецях асоб, якія мяняюць прозьвішча, іх імёны, год, месяц, дзень і месца нараджэньня;

ж) дакладнае пералічэньне гарадоў і мясцовасьцяй, у якіх заяўнік жыў на працягу апошніх 5 гадоў;

з) прычыны зьмены прозьвішча або імя;

і) новае прозьвішча або імя;

к) падрабязны адрэс заяўніка.

5. Да заявы павінны быць прыкладзены наступныя дакумэнты або іх натарыяльныя копіі:

а) копія пасьведчаньня асобы заяўніка (пасьведчаньне асобы, дадзенае міліцыяю, або пасьведчаньне з месца службы, або кніжка прафэсіянальнага саюзу, або выпіс аб нараджэньні, або падлічальны вайсковы білет);

б) даведка аб выплаце падаткаў і збораў ад фінансавых органаў тае мясцовасьці, дзе асоба, якая мяняе прозьвішча або імя, жыла апошнія 6 месяцаў;

в) падпіска заяўніка аб адказнасьці за даваньне няправільных зьвестак, паводле арт. 96 К. К.;

г) адпаведная сума грошай на публікацыю (гл. п. 26).

6. Раённыя органы ЗАГС, атрымаўшы заяву аб зьмене прозьвішча або імя, правяраюць усе зьвесткі і дакумэнты, паказаныя ў п. п. 4 і 5 гэтай інструкцыі, і накіроўваюць усю справу ў адпаведны акруговы орган ЗАГС.

7. Акруговыя органы ЗАГС, атрымаўшы заявы аб зьмене прозьвішча або імя, паведамляюць аб гэтым і мясцовым і цэнтральным органам, якія вядуць сьпісы аб крымінальнай судзімасьці, а таксама мясцоваму органу Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы з просьбаю паведаміць на працягу месяца ці няма перашкод для зьмены прозьвішча або імя данай асобы. Паказаныя паведамленьні

пасылаюцца ў памянёныя вышэй органы ня толькі па месцы жыцьця, але і ў тыя мясцовасьці, дзе даная асоба жыла ў апошнія 5 гадоў.

*Увага.* У паказаных паведамленьнях трэба адзначаць, што неатрыманьне адказу ва ўстаноўлены месячны тэрмін лічыцца станоўчым адказам.

8. Мясцовымі органамі, якія вядуць сьпісы аб крымінальнай судзімасьці, зьяўляюцца п/аддзелы крымінальнага вышуку пры адпаведных адміністрацыйных аддзелах, а Цэнтральнымі—Статыстычны Аддзел Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Цэнтральнае Рэгістрацыйнае Бюро пры Аддзеле Крымінальнага Вышуку Адміністрацыйнай Управы Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў.

9. Пасьля выкананьня патрабаваньняў, паказаных у п. 7 гэтай інструкцыі, і па працягу 2-х месяцаў ад дня публікацыі, усе справаводзтва аб зьмене прозьвішча або імя павінна быць скончана.

10. Скончаныя справы аб зьмене прозьвішча або імя павінны быць паданы акруговымі органамі ЗАГС начальніку адміністрацыйнага аддзелу на вырашэньне хадайніцтва ў залежнасьці ад прычын і абставін, якія выклікалі зьмену прозьвішча або імя.

11. Грунтоўнымі прычынамі для адмаўленьня ў зьмене прозьвішча або імя могуць быць: паведамленьні органаў, якія вядуць сьпісы аб крымінальнай судзімасьці, паведамленьні органаў Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы, пратэсты іншых (трэціх) асоб і незаслугоўваючыя ўвагі матывы заяўнікаў.

12. Калі будзе адмоўлена ў зьмене прозьвішча або імя, то зацікаўленыя асобы маюць права абскарджваць адмаўленьне ў Адміністрацыйную Ўправу НКУС.

13. Акруговыя органы ЗАГС, атрымаўшы ад начальніка адміністрацыйнага аддзелу дазвол на зьмену прозьвішча або імя, выклікаюць заяўніка для рэгістрацыі зьмены прозьвішча або імя ў адпаведных актавых кнігах.

*Увага.* Калі будзе адмоўлена ў зьмене прозьвішча або імя, то заяўніку пасылаецца адпаведнае паведамленьне з паказаньнем на права абскарджаньня (гл. п. 12).

14. Пасьля рэгістрацыі (афармленьня) акту аб зьмене прозьвішча або імя новае прозьвішча або імя ўносіцца ва ўсе акты грамадзянскага стану і дакумэнты, якія пасьвядчаюць асобу заяўніка, апроч падлічальна-вайсковых дакумэнтаў.

15. На акруговыя органы ЗАГС ўскладаецца абавязак на працягу 3-х дзён ад дня рэгістрацыі акту паведамляць належным органам ЗАГС па месцы захаваньня запісаў аб нараджаньні і шлюбе (калі такі ёсьць) для выпраўленьня прозьвішча або імя ў паказаных вышэй запісах.

16. Пры зьмеце прозьвіща або імя асобамі, якія знаходзяцца па сапраўднай вайсковай службе, вайсковапавіннымі або дапрызыўнікамі, органы ЗАГС павінны паведамляць у належныя вайскова-падлічальныя органы.

17. Акруговыя органы ЗАГС павінны васьці сьпісы асоб, якія зьмянілі прозьвішча або імя і два разы ў год не пазьней 15 ліпеня і 25 студзеня падаваць паказаныя сьпісы ў НКУС па наступнай форме:

| Старое прозьвішча або імя | Пахаджэньне | Новае прозьвішча або імя | Год, месяц, дзень і нумар зарэгістраванага акту |
|---|---|---|---|
| | | | |

II.

18. Зьмена прозьвішча адным з супругаў не выклікае зьмены прозьвішча другога супруга.

19. Зьмена прозьвішча бацькоў або аднаго з іх не выклікае зьмены прозьвішча паўналетніх дзяцей.

20. Пры зьмене прозьвішча абодвых бацькоў непаўналетнія дзеці прымаюць іх новае прозьвішча.

21. Пры зьмене прозьвішча адным з супругаў непаўналетнія дзеці могуць прыняць новае прозьвішча толькі, калі будзе згода на гэта абодвых бацькоў.

*Увага.* Калі ня будзе згоды бацькоў, то пытаньне аб зьмене прозьвішча вырашаецца органамі апекі і папячыцельства.

22. Калі пажадае зьмяніць прозьвішча ўся сям'я, г. зн. супругі і іх дзеці, то можа быць пададзена адна заява, у якой паказваецца згода кожнага паўналетняга члена сям'і.

*Увага.* У такім выпадку паведамленьні, паказаныя ў п. 7 гэтай інструкцыі, павінны пасылацца на кожнага паўналетняга члена сям'і асобна.

23. Пры зьмене імя бацькі паўналетнія дзеці могуць прымаць новае імя па бацьку па жаданьні бацькоў. Паўналетнія дзеці могуць прымаць новае імя па бацьку ў выпадку на тое іх згоды.

24. Прозьвішчы асобам, якія ня маюць прозьвішча (бяспрозьвішчным), даюцца акруговымі органамі ЗАГС ў парадку арт. 115 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы толькі тады, калі ў запісе аб нараджэньні не паказана прозьвішча бацькоў.

III.

25. Публікацыя аб зьмене прозьвішча або імя робіцца за кошт заяўніка акруговымі органамі ЗАГС ў афіцыйнай газэце „Савецкая Беларусь".

*Увага.* Публікацыя аб зьмене прозьвішча або імя павінна рабіцца на працягу 5 дзён ад дня атрыманьня ад заяўніка адпаведнай сумы грошай на публікацыю.

26. За публікацыю аб зьмене прозьвішча або імя ў газэце „Савецкая Беларусь" бярэцца плата ў суме 3 руб..

27. Публікацыя ў прэсе аб зьмене прозьвішча або імя робіцца па наступнай форме:

„Гр-н (прозьвішча, імя і імя па бацьку), які паходзіць з грамадзян (горад, сяло, губэрня) і жыве (горад, сяло, губэрня), зьмяняе прозьвішча (імя) (якое) на прозьвішча (імя) (якое),

Асоб, якія маюць пратэсты супроць зьмены прозьвішча (імя), просяць паведаміць аб гэтым акруговы ЗАГС, паказаўшы свае імя, імя па бацьку, прозьвішча і месца жыцьця.“

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

26 верасьня 1927 г.
№ 6952.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ АСОБНЫХ ФОНДАХ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ І ПЭРСАНАЛЬНЫХ АКЛАДАХ.

На падставе пастановы Н. К. Працы СССР за 5 ліпеня 1927 г. № 154 „Аб асобных фондах заработнай платы і пэрсанальных акладах“ („Изв. НКТ СССР“ 1927 г., №30), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Асобныя фонды заработнай платы для аплаты спэцыялістаў устанаўляюцца:

а) для дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў і акцыйных мяшаных таварыстваў рэспубліканскага значэньня—Народным Камісарыятам Працы БССР;

б) для дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў мясцовага значэньня—акруговымі інспэктарамі працы.

II. Пэрсанальныя аклады больш 360 р. у месяц устанаўляюцца толькі з дазволу Н. К. Працы СССР праз заключэньне адпаведных працоўных дагавораў па асобнай форме; гэтыя дагаворы павінны быць пададзены для рэгістрацыі ў Народны Камісарыят Працы БССР на працягу 2-х тыдняў ад часу іх заключэньня.

III. Пэрсанальныя аклады ня больш 360 руб. у месяц могуць быць устаноўлены без заключэньня пэрсанальных дагавораў па асобнай форме з тым, каб умовы аплаты былі ўстаноўлены на агульных падставах па згодзе старон (працоўным дагаворы) і запісаны ў разьліковую кніжку.

*Увага.* Усе іншыя пэрсанальныя працоўныя дагаворы таксама не рэгіструюцца ў органах Народнага Камісарыяту Працы.

IV. Дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы і акцыйныя мяшаныя таварыствы падаюць адпаведна ў Народны Камісарыят Працы БССР і ў акруговыя аддзелы (камэры інспэкцыі) працы кожны квартал (праз два тыдні пасьля кварталу, зьвесткі аб працоўных дагаворах, прадугледжваючых пэрсанальныя аклады па форме, прадугледжанай пастановай Н. К. Працы СССР за 5-е ліпеня 1927 году № 154 („Изв. НКТ СССР“ 1927 г., № 30).

V. Гэтая пастанова не пашыраецца на дзяржаўныя ўстановы, у якіх праведзена дзяржаўнае нармаваньне заработнай платы.

VI. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца тлумачэньне Н. К. Працы БССР за 25 лютага 1927 г. № 39 „Аб парадку рэгістраваньня ў органах Н. К. Працы БССР асабовых працоўных дагавораў“ (Бюл. СНК БССР, 1927 г., № 6).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Ст. Інспэктар па тар. канфл. працы **С. Гольдберг.**

26 верасьня 1927 г.
№ 77.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ СССР ЗА 12 ЛІПЕНЯ 1927 г. № 107 „ПРАВИЛА ОБ ОХРАНЕ ТРУДА В ФАРФОРО-ФАЯНСОВОМ ПРОИЗВОДСТВЕ".

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 20 абавязковай пастановы Н. К. Працы СССР за 12 ліпеня 1927 году № 170 „Правила об охране труда в фарфоро-фаянсовом производстве" („Изв. НКТ СССР" 1927 г., № 31) пастанаўляе ўвесьці ў сілу паказаную вышэй пастанову на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

27 верасьня 1927 г.
№ 79.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ФАРБАЎ ДЛЯ ШТУЧНАЙ АФАРБОЎКІ ХАРЧОВЫХ І СМАКАВЫХ ПРАДУКТАЎ І НАПІТКАЎ.

У разьвіцьцё п. 4 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 23/IX—1926 г. „Аб санітарных органах Рэспублікі", Народны Камісарыят Аховы Здароўя для абароны насельніцтва ад ужываньня харчовых прадуктаў, афарбованых шкоднымі для здароўя фарбамі, устанаўляе наступныя правілы:

1. Для штучнай афарбоўкі харчовых і смакавых прадуктаў і напіткаў (пернікі, сыр, цукеркі, фруктовыя воды і інш.) забараняецца ўжываць мінэральныя і каменна-вугальныя фарбы (анілінавыя, азафарбы і інш.), апроч тых фарбаў, якія паказаны ў § 2 гэтай пастановы.

*Увага.* Мясныя прадукты харчаваньня (каўбасы, кумпякі і інш.) штучна афарбоўваць не дазваляецца ніякімі фарбамі.

2. Для паказанай у § 1 мэты дазваляецца ўжываць наступныя фарбы:

а) чырвоныя: кашэніль, кармін, сокі спажыўчых ягад (журавіны, маліны, суніцы, смародзіны, парэчак і інш.), кіслы лакмус, адвар фэрнамбукавага дрэва, мальвы (з кветак мальвы);

б) жоўтыя: шафран, аваненскія і пярсідзкія зярняты з расьліны рамнус ціукторыус, жоўты імбір, куркума, арлеан, жоўты сандал;

в) сінія: індзіго, індзіго-кармін, лугавы лакмус, ультрамарын у спэцыяльнай запакоўцы з адзнакай, што шкодных падмешак няма;

г) зялёныя: хларафіл, мешаніна паменёных вышэй жоўтых з дазволенымі сінімі;

д) фіалетавыя: кампяшовае дрэва і мешаніна памянёных вышэй чырвоных з сінімі:

е) бурыя: палены цукер, крухмал і кава;

ж) белыя: крухмал і цукровая пудра.

3. Выраб фарбаў, якія ўжываюцца ў харчавой прамысловасьці, дазваляецца ў харчовых прадпрыемствых беспасрэдна і ў спэцыяльных гандлёвых прамысловых прадпрыемствах.

4. Прадпрыемствы, якія вырабляюць памянёныя фарбы, павінны быць зарэгістраваны ў акруговых аддзелах аховы здароўя, а для

адчыненьня новых патрэбен папярэдні дазвол санітарнай арганізацыі, паводле § 4 пастановы СНК БССР за 23/IX—1926 г. „Аб санітарных органах Рэспублікі“.

5. Фарбы, якія ўжываюцца ў харчовай прамысловасьці, павінны выпускацца на рынак прадпрыемствам, выраблюючым іх у спэцыяльных запакоўках пасьля папярэднага санітарна-гігіенічнага дасьледваньня іх у лабараторыях Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, з адзнакаю на запакоўцы: „дазволена для афарбоўкі харчовых прадуктаў і напіткаў Н.К. Аховы Здароўя №............. мес.,..........год..........., дзень, прадпрыемства і адрэс яго“.

*Увага.* Фарбы замежнага вырабу, хоць і маючыя назву вышэй пералічаных дазволеных фарбаў, таксама дазваляецца прадаваць і ўжываць толькі пасьля папярэдняга санітарна-гігіенічнага дасьледваньня і атрыманьня адпаведнага дазволу ад органаў аховы здароўя, які павінен быць адзначаны на запакоўцы.

6. Нагляд за выкананьнем паказаных правіл ускладаецца на органы аховы здароўя ў цэнтры і на мясцох.

7. Асобы і ўстановы, якія ня выконваюць гэтых правіл, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 215 Крым. Кодэксу БССР.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Узгоднена:

з ВСНГ БССР:
За Старшыню ВСНГ БССР **Розенблят.**

з Народным Камісарыятам Гандлю БССР:
Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

з Народным Камісарыятам
Унутраных Спраў БССР:
Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

АБ ПАРАДКУ РАЗРЭЗВАНЬНЯ ТРУПАЎ ПАМЁРШЫХ У БОЛЬНІЦАХ І ЛЕКАВЫХ УСТАНОВАХ.

1. Навукова-мэдыцынскае разрэзваньне трупаў памёршых у больніцах і лекавых установах робіцца з ведама і дазволу галоўнага лекара больніцы або лекавай установы.

2. Даючы дазвол на разрэзваньне галоўны лекар кіруецца:

а) патрэбаю навуковага кантролю больнічнай справы;

б) патрэбаю навуковага вывучэньня складаных форм хвароб, якія спатыкаюцца вельмі рэдка;

в) патрэбаю ўстанаўленьня пачатковых выпадкаў эпідэмічных хвароб;

г) патрэбаю высьвятленьня прычын сьмерці асоб, якія памерлі ад злачынных дзеяньняў або няшчасных выпадкаў (суд.-мэд. выпадкі).

3. Разрэзваньне цела памёршых у больніцах або ў лекавых установах можа быць адменена па хадайніцтву сваякоў не далей

2-й ступені або апякуноў аб выдачы ім цела памёршага для пахаваньня за іх кошт. Хадайніцтва павінна быць падана ў першыя 24 гадзіны пасьля сьмерці.

*Увага.* Разрэзваньне цела памёршага ня можа адмяняцца ў выпадках, паказаных у п. п. „б“, „в“, „г“, § 2 гэтай пастановы.

4. Памёршы не павінен разрэзвацца раней 24 гадзін з моманту сьмерці.

*Увага.* Для навуковых і навукова-практычных мэт дазваляецца разрэзваць трупы ў клінічных і больнічных установах і раней 24 гадзін пасьля сьмерці, але не раней 2-х гадзін пасьля сьмерці і ў прысутнасьці ня менш, чымся 2 лекараў. У такіх выпадках перад разрэзваньнем лекары павінны зрабіць пратакол, паказаўшы прычыны патрэбы такога хуткага разрэзваньня і довады фактычнай сьмерці.

5. Калі ў памёршага будуць цялесныя пашкоджаньні, адзнакі згвалтаваньня або зьявішчы, якія залежаць ад іншых крымінальных дзеяньняў, то аб гэтым абавязкова паведамляецца раённая міліцыя і вучастковы сьледчы, на тэрыторыі якіх гэтыя дзеяньні адбыліся.

У такіх выпадках разрэзваньне павінна рабіцца ў прысутнасьці 2-х сьведак і павінен складацца поўны судова-мэдыцынскі акт, які падпісваецца рабіўшым разрэзваньне лекарам і сьведкамі.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Узгоднена з Народным Камісарыятам Юстыцыі:

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

6 верасьня 1927 г.
№ 101.

Узгоднена з Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР 7 верасьня 1927 г.

## 15. Часовае палажэньне аб правох і абавязках інспэктара сацыяльнага забесьпячэньня акруговага выканаўчага камітэту.

1. Інспэктар сацыяльнага забесьпячэньня знаходзіцца пры акруговым выканаўчым камітэце і ўсю сваю працу вядзе пад беспасрэдным кіраўніцтвам апошняга і па дырэктывах Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня.

2. Інспэктар сацыяльнага забесьпячэньня акруговага выканаўчага камітэту ажыцьцяўляе, паводле пляну і заданьняў Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР, на тэрыторыі акругі мерапрыемствы, накіраваныя да арганізацыі і выкананьня беспасрэднага дзяржаўнага забесьпячэньня і да ўцягненьня ў справу забесьпячэньня грамадзкай самадзейнасьці, напрыклад:

а) арганізуе справу дзяржаўнага забесьпячэньня і падлік асоб, якія маюць права на такое забесьпячэньне, праз раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы акруговых гарадоў;

б) арганізуе праз раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы акруговых гарадоў дапамогу сем'ям асоб, узятых на абавязковую вайсковую службу ў РСЧА;

в) арганізуе на тэрыторыі акругі інвалідныя дамы для асноўнага падлягаючага забесьпячэньню кантынгэнту і прытулкі для састарэлага і дэклясаванага элемэнту і ажыцьцяўляе агульнае над імі кіраўніцтва;

г) правярае асоб, якія знаходзяцца ў інвалідных дамох і прытулках акруговага значэньня, і пераглядае іх справы, у залежнасьці ад зьмены іх маемаснага або сямейнага становішча, а таксама ў залежнасьці ад зьмен працаздольнасьці інвалідаў;

д) рабіць захады да прыстасаваньня інвалідаў на працу спосабамі іх перападрыхтоўкі, здавальненьня іх пратэзамі, скарыстаньня рэшты іх працаздольнасьці ў існуючых арцелях, прадпрыемствах, капярацыі ідвалідаў і іншых установах і прадпрыемствах;

е) пры стыхійных няшчасьцях праз раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы акруговых гарадоў арганізоўвае грамадзкую дапамогу і хадайнічае перад адпаведнымі органамі аб дапамозе ў гэтай справе і аб дачы розных льгот пацярпеўшым;

ж) разам з органамі Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя ўдзельнічае ў змаганьні з бяспрытульнасьцю, жабрацтвам і прастытуцыяю;

з) наглядае за падлікам і правільным скарыстаньнем розных канфіскантаў, адмерлай маемасьці і іншых сродкаў, што паступаюць у фонд сацыяльнага забесьпячэньня, тымі арганізацыямі, якім гэтыя сродкі перадаюцца;

і) дапамагае ўтварэньню і рэгіструе местачковыя і сельскія таварыствы ўзаемадапамогі і аб'яднаньні капярацыі інвалідаў;

к) хадайнічае перад Народным Камісарыятам Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР аб назначэньні пэнсій і дапамог асобам, якія маюць асаблівыя заслугі перад Рэспублікаю, або іх сем'ям, а таксама па заданьні Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня і па сваёй ініцыятыве зьбірае патрэбныя зьвесткі і дакумэнты, якія патрэбны для афармленьня спраў гэтых асоб;

л) падае Народнаму Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня па вызначаных формах усе статыстычныя даныя і справаздачы аб становішчы сацыяльнага забесьпячэньня на тэрыторыі акругі;

м) наглядае за дзейнасьцю ўсіх грамадзкіх арганізацый, якія праводзяць у той ці іншай форме сацыяльнае забесьпячэньне;

н) наглядае за выкананьнем раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі акруговых гарадоў ускладзеных на іх работ па сацыяльным забесьпячэньні;

о) падрыхтоўвае і папярэдне азнаямляецца з пэнсійнымі справамі, якія выносяцца на разгляд і вырашэньне акруговай міжведамственнай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог;

п) зьяўляецца пададказнаю асобаю за выдаткаваньне сум, прадугледжаных у каштарысе на перавоз інвалідаў за пратэзамі, на перавоз інвалідаў да сталага месца жыцьця і на дачу аднача-совай дапамогі асобам, якія яе патрабуюць;

р) на падставе маючыхся паказаньняў і матар'ялаў робіць захады да здавальненьня каштарысных заявак на сацыяльнае забесьпячэньне, якія праходзяць па акруговым, гарадзкім і раённым бюджэтах.

3. Інспэктар сацыяльнага забесьпячэньня акругова́га выканаўчага камітэту зьяўляецца старшынёй акруговай міжведамственнай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог.

4. Тэхнічнае абслугоўваньне інспэктара робіцца апаратам акруговага выканаўчага камітэту.

Народны Камісар Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **П. Калінін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **А. Каржуяў.**

10 верасьня 1927 г.
№ 4950.

---

## 16. Абвестка Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР.

Гэтым абвяшчаецца да ведама, кіраўніцтва і выкананьня наступная пастанова Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 10/VIII—1927 г. (прат. № 181, п. 1) „Аб увядзеньні новых стандартаў на таварную пшанічную і жытнюю гатунковую муку“ замест стандартаў, устаноўленых Народным Камісарыятам Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 13/XII—1926 г. і Народным Камісарыятам Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР за 5/III—1927 г. (апублікована ў „Бел. Камэрц. Бюлетэні“ за 8/III—1927 г. № 19/226).

Нам. Народнага Камісара
Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

7 верасьня 1927 г.

---

## Пастанова Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР

### АБ УВЯДЗЕНЬНІ НОВЫХ СТАНДАРТАЎ НА ТАВАРНУЮ ПШАНІЧНУЮ І ЖЫТНЮЮ ГАТУНКОВУЮ МУКУ, ЯКАЯ ПЕРААПРАЦОЎВАЕЦЦА НА МЛЫНОХ ДЗЯРЖАЎНАГА, КАПЕРАЦЫЙНАГА І ПРЫВАТНАГА МУКАМОЛЬЛЯ ДЛЯ ЎНУТРАНЫХ РЫНКАЎ.

На падставе п. „п“ арт. 2 „Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік“ (З. З. СССР 1924 г., № 62, арт. 620) і пастановы ЦВК і СНК СССР за 18 лістапада 1925 г. „Аб утварэньні Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю Саюзу ССР“ (З. З. СССР 1925 г., № 78, арт. 590) Народны Камісарыят Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР пастанаўляе:

1. Замест пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 13/XII—1926 г. (прат. 161) устанавіць на 1927-28 год для ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млыноў адзіны агульнасаюзны стандартны 3-х гатунковы пшанічны памол у наступных суадносінах гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

| | | |
|---|---|---|
| 1 гатунак | . . | 30 проц. |
| 2 „ | . . | 30 „ |
| 3 „ | . . | 15 „ |

з абавязковым выхадам мукі з зярна ня менш 75 проц. пры ўстаноўленых разьліковых базісах.

*Увага.* Зьмена выхадаў мукі ў залежнасьці ад кандыцыі зярна вылічаецца паводле ўстаноўленых разьліковых норм, прыкладзеных да гэнэральнага дагавору на 1927-28 год і зацьверджаных пастановаю Калегіі Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 15/VII г. г.

2. Асноўнаю адзнакаю, якая характарызуе якасьць мукі і адпаведнасьць яе стандарту, прызнаць наяўнасьць зярна (зольнасьць) у адносінах да сухой матэрыі.

3. Да часу атрыманьня сярэдніх дасьледаваных даных па зольнасьці ўстанавіць часова наступныя гранічныя нормы зольнасьці для 3-х гатунковага памолу пшаніцы:

1 гатунак . . . 0,55 проц.
2 „ . . . 0,80 „
3 „ . . . 2,10 „

4. Дазволіць перaапрацоўку пшаніцы (у мешаніне цьвёрдай і мяккай) на трохгатунковы стандартны памол у наступных суадносінах гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1 гатунак . . 15 проц.
2 „ . . 45 „
3 „ . . 15 „

з абавязковым агульным выхадам мукі з пшаніцы ня менш 75 проц. пры установленых разьліковых базісах.

*Увага.* Вылічэньне выхадаў робіцца паводле разьліковых норм, зацьверджаных пастановаю Калегіі за 15/VII—г. г.

5. Для перaапрацоўкі пшаніцы ў муку па трохгатунковаму памолу, паказаныя ў п. 4-м млынныя арганізацыі: Хлебапрадукт, Цэнтрасаюз, Укрхлеб, Хлебацэнтр, Маскоўскі Саюз Спажывецкіх Таварыстваў (МСПО), „ВУКС“, „Сельгаспадар“, „Каўхлеб“, павінны атрымаць дазвол ад Народнага Камісарыяту Гандлю СССР паводле зацьверджанага ім сьпісу прадпрыемстваў. Усе іншыя арганізацыі (мясцовыя млынныя трэсты, млынныя аб'яднаньні), прыватныя арандатары млыноў, а таксама паасобныя ўласьнікі млыноў павінны атрымаць дазвол на права перaапрацоўкі зярна ў муку па паказаным у п. 4-м памоле ад мясцовых органаў рэгуляваньня гандлю.

6. Да часу атрыманьня сярэдніх дасьледаваных даных па зольнасьці розных гатункаў мукі часова ўстанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для трохгатунковага стандартнага памолу пшаніцы, паказанага ў п. 4-м гэтай пастановы:

1 гатунак . . 0,5
2 „ . . 0,8
3 „ . . 2,3

7. Для выключэньня п. п. 1 і 4 ўстанавіць правілы:

а) млынным прадпрыемствам, якія перaапрацоўваюць пшаніцу для Закаўказьзя, а таксама як і тым млынным прадпрыемствам, якія знаходзяцца ў Закаўказьзі, выпускаць на рынак муку мясцовага пшанічнага трохгатунковага памолу ў наступных суадносінах гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1 гатунак . . 40 проц.
2 „ . . 25 „
3 „ . . 10 „

б) млынным прадпрыемствам, якія пераапрацоўваюць пшаніцу для Сярэдняй Азіі, а таксама і тым, якія знаходзяцца ў Сярэдняй Азіі, дазваляецца выпускаць на рынак муку мясцовага пшанічнага трохгатункавага памолу ў наступных суадносінах гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1 гатунак . . 50 проц.
2 „ . . 10 „
3 „ . . 15 „

*Увага.* Нормы зольнасьці для мукі, якая выпрацоўваецца па мясцовых памолах Сярэдняй Азіі і Закаўказьзя, устанавіць пасьля правядзеньня спробных дасьледаваных памолаў.

8. Кіраўніцтва Мукамольнай Прамысловасьці павінна правесьці да 1 кастрычніка 1927 г. спробныя дасьледаваныя памолы ў розных раёнах СССР дапасавальна да ўстаноўленага п. п. 1, 4 і 7 гэтай пастановы асартымэнту мукі для атрыманьня стандартных гранічных норм зольнасьці для паасобных гатункаў.

9. Для жытняй мукі ўстанавіць наступныя гатункі з арыентыровачнымі выхадамі:

1. Жытняя простая . 97,5 проц.
2. Абойная . . 95 „
3. Адсяваная . . 75 „
4. Пэкляваная . . 43 „

10. Устанавіць для жытняй мукі наступныя нормы зольнасьці:

1. Адсяваная . . 1,4 проц.
2. Пэкляваная . . 0,8 „

11. Ускласьці на мясцовыя органы рэгуляваньня гандлю нагляд і кантроль за ўсімі прадпрыемствамі як дзяржаўнымі, так і каперацыйнымі і прыватнымі ў адносінах да выпрацоўкі імі мукі з выхадам такой ня менш 75 проц., у адпаведнасьці з разьліковымі нормамі, прадугледжанымі інструкцыяю, прыкладзенаю да гэнэральнага дагавору на 1927/28 г.

*Увага.* Для магчымасьці кантролю і нагляду за захаваньнем млыннымі прадпрыемствамі ўстаноўленых правіл перамолу мясцовымі органамі рэгуляваньня гандлю ўстачаўляецца абавязковы парадак запісаў і эксплёатацыйнай справаздачнасьці на млынных прадпрыемствах, на якіх такая справаздачнасьць не вядзецца, выключаючы прадпрыемствы цэнтралізаных кіраўніцтваў і мясцовых трэстаў.

12. За выпуск млыннымі прадпрыемствамі пшанічнай і жытняй мукі, не адпавядаючай устаноўленым Народным Камісарыятам Гандлю СССР стандартам і закляйменьнем мукі маркамі, не адпавядаючымі яе якасьці, адказныя за гэта асобы прыцягваюцца да судовай і адміністрацыйнай адказнасьці паводле дзеючага заканадаўства.

13. Даручыць народным камісарыятам гандлю саюзных рэспублік увайсьці з хадайніцтвам у адпаведныя інстанцыі аб дачы права выданьня абавязковых пастаноў краёвым, абласным, губэрскім і

акруговым выканаўчым камітэтам, прадугледжваючым грашовыя штрафы або іншыя пакараньні за выпрацоўку мукі з агульным выхадам мукі ніжэй 75 проц. у адпаведнасьці з разьліковымі нормамі, зацьверджанымі Калегіяю Народнага Камісарыяту Гандлю СССР 15/VII—г. г., і аб выданьні памянёнымі выканаўчымі камітэтамі адпаведных абавязковых пастаноў.

14. Увесьці ў сілу гэтую пастанову з 1-га верасьня г. г. на ўсёй тэрыторыі СССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю Эйсмонт.

Член Калегіі Народнага Камісарыяту Гандлю СССР Вейцер.

Нам. Кіраўніка Галоўнага Сакратарыяту Мунцян.

10 жніўня 1927 г.

---

## 17. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### АБ РАСПАЧАТКУ ЗЬБІРАНЬНЯ ЗЬВЕСТАК АБ НЕЗЕМЛЯРОБЧЫХ ЗАРАБОТКАХ СЯЛЯНСТВА.

*Усім акруговым фінансавым аддзелам.*

Ажыцьцяўленьне падаходнага прынцыпу сельска-гаспадарчага падакту і збор належных сум яго залежыць у першую чаргу ад правільнага падліку аб'ектаў абкладаньня, у тым ліку неземляробчых даходаў сялянства. Спроба бягучага году паказала, што галоўныя з гэтых даходаў—заработкі селянства на розных лесазагатоўчых, торпазагатоўчых і іншых работах—можна больш-менш правільна падлічыць толькі, калі ёсьць зьвесткі ад адпаведных загатоўчых арганізацый аб выплачаных паасобным гаспадаром сумах. Аднак, ужо сёлета некаторыя з гэтым арганізацый альбо проста адмаўляліся даць фінансавым установам адпаведныя зьвесткі, альбо ўтваралі розныя перашкоды пры атрыманьні іх.

Бяручы пад увагу, што зьвесткі аб неземляробчых заработках сялянства за 1927-28 г. трэба атрымаць загадзя, каб такім чынам падрыхтавацца да будучай сельска-гаспадарчай падатковай кампаніі, Народны Камісарыят Фінансаў даручае ўсім акруговым фінансавым аддзелам:

1. Безадкладна высьвятліць, якія гаспадарчыя арганізацыі дзяржаўныя, грамадзкія і прыватныя карыстаюцца на тэрыторыі акругі нанятаю сілаю сялянства для ажыцьцяўленьня сваіх задач.

2. Запрапанаваць усім гэтым арганізацыям рэгістраваць у сьпісах прозьвішча, імя і месца жыцьця кожнага рабочага і служачага, які атрымоўвае ад іх заработную плату, і падаваць гэтыя сьпісы для карыстаньня і капіраваньня агэнтам фінансавых устаноў.

3. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты пэрыядычна выбіраць з гэтых сьпісаў належныя зьвесткі і захоўваць іх, як матар'ял да кампаніі па сельска-гаспадарчым падатку будучага году.

4. Паведамляць Народны Камісарыят Фінансаў БССР аб усіх выпадках адмаўленьня і перашкод пры атрыманьні гэтых зьвестак адпаведных арганізацый і ўстаноў для дакладу СНК аб прыцягненьні вінаватых у гэтым асоб да адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Нач. Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **Кардашэнка.**

10 кастрычніка 1927 г.
№ 3113-4.

## 18. Пытаньні і адказы.

### Запытаньне Менскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 19 жніўня 1927 № 77.

ПЫТАНЬНЕ **89.** Ці мае права домагаспадар здаць зямлю ў арэнду ў тым выпадку, калі члены двара згаджаюцца на здачу зямлі ў арэнду апроч аднаго члена, які мае больш 70 гадоў і зьяўляецца непрацаздольным?

АДКАЗ. На здачу ў арэнду зямлі, якая зьяўляецца самым галоўным і асноўным элемэнтам гаспадаркі, трэба глядзець як на часовае адмаўленьне ад беспасрэднага карыстаньня зямлёю, а таму домагаспадар бяз ведама і згоды ўсіх паўнапраўных членаў двара ня можа здаць зямлю ў арэнду. Аднак, з гэтага нельга зрабіць вывад, што кожны член двара мае заўсёды права забараніць усім іншым членам двара ў асобе гаспадара здаць зямлю ў арэнду.

У паказаным пытаньні, калі ўсе члены двара, апроч аднаго непрацаздольнага 70 гадовага старога жадаюць здаць зямлю ў арэнду, то раённы выканаўчы камітэт па зямельнаму сталу пры рэгістрацыі арэнднага дагавору павінен высьветліць ці ёсьць для здачы гэтай зямлі ў арэнду наяўнасьць умоў, прадугледжаных арт. 27 Зям. Код., ці здача зямлі зьяўляецца гаспадарча-мэтазгоднаю, а таксама ці выклікаецца яна агульнымі інтарэсамі двара. Пры наяўнасьці паказаных акалічнасьцяй раённы выканаўчы камітэт павінен зарэгістраваць арэндны дагавор.

Зразумела, што кожны чен двара не пазбаўлены магчымасьці падаць у зямельную камісію іск аб скасаваньні арэнднага дагавору.

Адказ на пытаньне 89 дае Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал АКВК № 31).

---

Адказны рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**